Інфармацыйны бюлетэнь
Моладзевага клуба аховы прыроды

# Жаўранак



снежань 2000г №1

г. Слонім

З Новым 2001 годам!

*Калі ў свіні пазычыўшы вачэй,*
*Плюеш ты ў чыстую крыніцу,*
*Што на зямлі спрадвек цячэ,*
*І ў спёку, і ў мароз бруіцца, -*
*Не шлю праклёны я табе:*
*Ты - безгаловік, небарака,*
*І долю выбраў сам сабе.*
*Не Бог жа даў табе дзве с...*

*Іван Карэнда*





# Жаўранак

**Інфармацыйна — экалагічны бюлетэнь**

*№1 2000 г.*

Выдаецца Моладзевым клубам аховы прыроды **"Жаўранак"**
*Наклад 299 асобнікаў*

**Рэдактар:** Вячаслаў Бякета

Меркаванне аўтара можа не супадаць з кропкай гледжання рэдакцыі і змяшчаецца ў бюлетэні як дыскусійны матэрыял



**Наш адрас:**
Вул. Баграціёна, д 31,
г. Слонім
231800
Беларусь

Бюлетэнь з-задавальненнем змесціць прыватныя абвесткі і цікавыя матэрыялы.
Звяртацца ў рэдакцыю

Нумар падрыхтаваны і надрукаваны дзякуючы тэхнічнай падтрымцы Агенцтва Рэгіянальнага Разьвіцьця **"Варута"**, г. Баранавічы

# Чытайце ў гэтым нумары

СТАРОНКА РЭДАКТАРА
Стар. 4
**Зварот рэдакцыі**

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ
Стар. 5, 7
**Гісторыя стварэння Клубу аховы прыроды "Жаўранак"**
**"Дзеці змагаюцца за чыстае паветра"**
**Экалагічнфыя праблемы**
**Навіны**

МАСТАЦТВА
Стар. 6
**Творчасць Алеся Фалея**

ПАЭТЫЧНЫ ВЕТРЫК
Стар. 8-9
**Іван Крэнда**
**Аляксей Белы**
**Вершы**

ЭРУДЫТ
Стар. 10
**Конкурсы**
**Тэсты**



# Паважаны чытач


Вячаслаў Бякета, кіраўнік Моладзевага КАП "Жаўранак"

Зараз ты трымаеш у руках першы нумар Бюлетэня Моладзевага Клуба аховы прыроды на Слонімшчыне "Жаўранак".

Мэта нашага Моладзевага клуба аховы прыроды:

- наладжванне экалагічнай і прыродаахоўнай вучобы сярод школьнікаў і моладзі горада Слоніма і раёна;
- правядзенне экалягічных семінараў, пленэраў, канферэнцыяў з мэтай прывіцця любові да прыроды і жывёльнага свету роднага края;
- вывучэнне вопыту іншых прыродаахоўных арганізацыяў;
- Наладжваньне цесных сувязяў і сяброўскіх стасункаў у плане абмену вопытам з іншымі экалагічнымі арганізацыямі як нашай краіны, так і замежжа;
- правядзенне вечарынаў, сустрэчаў, конкурсаў для дзяцей і падлеткаў, якія любяць, паважаюць ды зьберагаюць родны кут сваёй Матулі-Беларусі;
- захаванне і ўтрыманне ў належным парадку навакольнага асяроддзя;
- ахова акружаючай нас флоры і фауны;
- прывіццё любові ў дзяцей да сваіх малодшых хатніх братоў (коцікаў, сабачак, хамячкоў) і іншых прыгожых і мілых сяброў чалавека;
- дапамога бяздомным жывёлам.

У гэтым і далейшых нумарах нашага выдання ты даведаешся:

- аб стварэнні і дзейнасці Клуба аховы прыроды;
- зможаш паўдзельнічаць у розных, праводзімых МКАП "Жаўранак" конкусах, умовы якіх будуць змешчаны на старонках першага прыродаахоўнага бюлетэня Слонімшчыны "Жаўранак";
- пра экалагічныя праблемы, клопаты ды навіны нашага края і замежжа.

Калектыў бюлетэня "Жаўранак" будзе старацца змяшчаць на сваіх старонках розную цікавую інфармацыю, прапановы, пажаданні і парады ад усіх зацікаўленых асобаў ды арганізацыяў.

Калі вы паважаеце і любіце прыроду, жадаеце сябраваць з намі, калі хочаце дапамагчы знявечанаму ад няграматнага, бяздушнага ды бяздумнага гаспадарання міламу і дарагому вашаму сэрцу роднаму краю, далучайцеся да сяброў клуба аховы прыроды "Жаўранак".

*Рэдакцыя бюлетэня "Жаўранак"*

# Гісторыя стварэння Моладзевага клубу аховы прыроды “Жаўранак”

Аднойчы паглядзеўшы на сваю вуліцу, якая яна непрыемная і пус-



*Ініцыятары стварэння Моладзевага клуба аховы прыроды “Жаўранак”*

тая, мы вырашылі стварыць свой клуб аховы прыроды. Было гэта 1-га чэрвеня 1998 году. За ўвесь час існавання нашай арганізацыі намі было зроблена ня многа, але прырода ўжо адчувае гэта на пасаджаных дрэвах, зробленых кармушках для птушках і шпакоўнях, па чыстай рэчцы дзе шмат папрацавалі нашыя сябры.

Увесь гэты час мы адчувалі сяброўскую падтрымку і пасільную дапамогу ад нашых сяброў. Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто нас падтрымаў і дапамог на пачатковым этапе нашага станаўлення. Ад усяго сэрца выказваем вялікую і шчырую падзяку грамадскім арганізацыям ТМА “Вятрак” ды “Ветразь”. Дзякуючы іх актыўнай падтрымцы наш Моладзевы клуб аховы прыроды “Жаўранак” цьвёрда стаў на свае ногі і працягвае сваю дзейнасць па ахове навакольнага асяроддзя ад забруджвання. Нашыя сябры імкнуцца зрабіць усё магчымае дзеля выратавання і захавання прыгожай прыроды, якой нас надзяліў Бог.

Сярод нашых сяброў шмат таленавітых асобаў і мы спадзяёмся, што пры актыўнай падтрымцы простых людзей, якім баліць сэрца за наш родны край, яго прыроду і жывёльны свет, мы зможам рэалізаваць усе свае задумы і шматлікія планы.

*Іван Дэйка*


Алесь за працай у майстэрні

## Алесь Фалей

Нарадзіўся ў в.Задзвея Баранавіцкага раёна ў 1959 г. З 1999 г. сябра саюза мастакоў Беларусі. Працуе ў тэхніцы жывапісу, габелена. Жыве ў г.Баранавічы, дзе ў 1986 г. упершыню прыняў удзел у выставе, прысвечанай XXVII з'езду КПСС. У Баранавічах адбылася першая персанальная выстава жывапісу ў 1992 годзе, а таксама выстава пад назвай "Спакой на зямлі і ў нябёсах" у 1997 г. Алесь прымаў удзел ў гарадскіх выставах:

1994 г. - выстава, прысвечаная памяці Д.Л.Цырліна;

1998 г. - выстава "Мой родны горад".

За гады навучання ў ВЦІЛПе Алесь удзельнічаў у выставах г. Віцебска, сярод якіх:

абласная маладзёвая выстава 1988 г.;

выстава выкладчыкаў і студэнтаў ВЦІЛПа 1988 г.;

абласная выстава 1989 г.

На першай выставе візуальных мастацтва ў "Арт-Марк", якая адбылася ў Віцебску ў 1992 г, Алесь Фалей быў узнагароджаны дыпломам лаўрэата конкурсу за цыкл "Маленькі свет".

Алесь Фалей з 1991 г. з'яўляецца сябрам творчага аб'яднання "Аршыца". Выставы "Аршыцы" адбываліся ў розных гарадах Беларусі: Віцебскі абласны мастацкі музей (1993 г.), г.Орша (1995 г.), музей Дзекабрыстаў, г.Магілёў, (1995 г.), Віцебскі абласны мастацкі музей, (1997 г.), Палац мастацтваў, г.Мінск, (1999 г.).

А. Фалей актыўны удзельнік рэспубліканскіх выстаў: 1988 г. рэспубліканская маладзёвая выстава, г. Мінск, 1989 г. - рэспубліканская маладзёвая выстава, г. Мінск, 1991 г. - рэспубліканская выстава габелена, г.Мінск, 1992 г. рэспубліканская выстава "110 год з дня нараджэння Я.Коласа", г.Мінск, 1996 г. рэспубліканская выстава габелена, Нацыянальны мастацкі музей, г.Мінск, 1999 г. рэспубліканская выстава "Пад белымі крыламі", Палац мастацтваў, г.Мінск;

**2000 г.:** персанальная выстава г. Баранавічы – мэрыя, персанальная выстава г. Баранавічы – выставачная зала, выстава "Аршыцы" г. Мінск, выстава "Аршыцы" г. Віцебск, выстава "мой родны горад" г. Баранавічы, абласная выстава г. Брэст.

А.Фалей удзельнік міжнароднай выставы 1990 г. "Кліч Кассандры", а таксама замежных выстаў: 1991 г. выстава беларускага мастацтва ў Саудаўскай Аравіі, 1996 г.персанальная выстава. Універсітэт візуальных мастацтваў, г.Корк, Ірландыя, 1997 г. - выстава г.Рыга, Латвія, 2000 г. персанальная выстава Расія - Пскоў.

Спадчына

# Экалагічныя праблемы

Зараз перад чалавецтвам стаіць вялікая пагроза — забруджванне навакольнага асяроддзя. Вялікай крыніцай забруджвання з'яўляюцца нашыя гарады з развітым транспартна-прамысловым комплексам. У выніку аварыі на ЧАЭС 23% тэрыторыі Беларусі з 3680 населенымі пунктамі, у якіх на момант аварыі жыло болей за 2 мільёны чалавек, было забруджана радыёнуклідамі з шчыльнасцю болей 1 Ku/км$^2$ (па цэзію 137).

Акрамя гэтай праблемы, існуе праблема забруджвання навакольнага асяроддзя чалавекам.

Мы звяртаемся да ўсіх жыхароў Беларусі: любіце, шануйце і даражыце краем? у якім нарадзіліся і жывяце.

І тады вы ўбачыце як папрыгажэе і расквітнее любімы і дарагі вашаму сэрцу родны край

*Вячаслаў Бякета*

# Навіны

Самым чыстым горадам у Эўропе на сёняшні дзень лічыцца сталіца Даніі — Капенгаген. Для гораду былі дастаўлены 51 аўтобус, якія працуюць на прыродным газе, што знізіць забруджванне паветра на 70% і гук на50%.

# Дзеці змагаюцца за чыстае паветра

Дзеці Італьянскага гораду болей не здолелі цярпець і надзелі на свае маленькія тварыкі кіслародныя маскі. Яны пайшлі на гэты крок з-за таго, што дарослыя абыякава ставяцца да аховы навакольнага асяроддзя і ня дбаюць аб чыстаце паветра. Дзеткі патрабуюць ад дарослых увагі да праблемаў, якія адбіваюцца на здароўі ня толькі дзяцей, але і ўсяго насельніцтва іхняй прыгожай краіны.

Так яны нагадалі дарослым аб экалагічных праблемах свайго рднага гораду.

А адна з Італьянскіх газет аб гэтым выпадку піша: "Няўжо гэта адзіны спосаб аховы ад забруджвання паветра"?

І сапраўды, няўжо акрамя дзяцей ніхто ня бачыць пагрозы экалагічнай катастрофы на нашай планеце Зямля?

*Ганна Дамброўская*

# Іван Карэнда



Іван Карэнда нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага пединстытута Імя Янкі Купалы. Працаваў настаўнікам, журналістам.

Вершы друкаваліся ў часопісах "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", "Вожык", і іншых перыядычных выданнях. У 1995 годзе ВКФ "Выдавецкі дом" выдала яго кнігу лірыкі "Белы наліў".

## ПРАЎДА

I

Праўда такая горкая,
З такой палыновай аскомаю,
Што робіць жыццё агорклым -
Нібыта ў хаціне без коміна.
Праўда бывае жорсткаю -
За ноч галава пасівее,
Ці ў горле засядзе косткаю -
І чалавек сінее.
Праўда такая балючая,
Што робіць жыццё нямілым,
Што нават асілкаў скручвае
І іх пакідаюць сілы.
Праўда такая пякучая,
Што кроў закіпае ў жылах...

...Яе неаднойчы мучылі -
Яна ж уздымала крылы.

II

Праўда заўсёды ў спрэчцы
З тваёй, чалавек, маною,
Калі, баючыся сьмерці,
Цалуешся ты з сатаною.
Праўда заўсёды ў згодзе
З тваім, чалавек, сумленнем,
Калі ты з хлуснёю не згодзен,
Не стаў перад ёй на калені.
Праўда - маланка бліскучая,
Што злодзеям вочы сляпіла.
Праўда - крыніца гаючая,
Што людзям вяртае сілы.
Праўда нікім не прыручана,
Паклонаў нікому не біла...

...Дашчэнту падман раструшчыла,
Краіну ад сну абудзіла.

III

Праўда, як вечнасць, жывучая,
Дарма ёй капаюць магілу.
Не быць ёй ніколі атручанай,
Не зьнікнуць за небасхілам!
І найвялікшае права,
Найпершы закон на свеце -
Глядзець праўдзе ў вочы прама
Ад нараджэння да смерці.

*Ты быццам на рубяжы,
Нібыта ў свеце - адзіны...
Адкуль пачатак, скажы,
Крынічкі: тваёй радзімы?*

# Аляксей Белы



## РАДЗІМА

Колькі дзеля цябе
і адплакана, і пражыта.
Зноў прыехаў дадому,
каб статак адпасвіць – "на ранкі"
І нічога ж такога. А проста -
сцяжынка праз жыта,
Ды валошкавы вецер, што гойдае
лёгка фірвнкі.
І - нічога... Ну, можа кружэнне буслоў
напрадвесні,
Ды ў ліпеньскі дзень
пацалункі з каханкай ля стога...
Ды крыжы на пагосце,
ды шчырыя матчыны песні...,
Ну, а што ў чалавека
яшча застаецца святога?

## КРАШЫН

**Паўлюку Багрыму**

На каменнях з медзі кветкі стынуць,
Што тут зробіш? Крыж. Маліннік. Пуста...
Верш пасля сябе адзін пакінуць,
Выкаваць карункавую люстру.
І пайдуць павольна век за векам,
Як заўжды - ў чаканні лепшай долі...
А карункам - Лёсу Чалавека –
Бог пазначыць месца ў касцёле.
Не ў сталіцах, а ў храме сельскім,
Дзе шапочуць дрэвы ля магілы,
Жаваранкі селі між цяпельцаў,
А ўзняцца не хапіла сілы.
Тут - аб Вечным думы. І аб Хлебе.
Тут - І сум, І шчасце - як ніколі!..
Птушкі, што спяваюць толькі ў небе,
Гнёзды паплялі на жырандолі.
...Нібы ў лесе, ў парку плача рэха,
Ну, а можа крык здалёк даносіць?..
Ты сюды з каханаю прыехаў
Ў самы лепшы час - якраз пад восень!
Колькі ты чакаў такой сустрэчы? –
Даплывае ў небе павуцінне...
Так, пад восень. А яшчэ - пад вечар
Ў сялянскай просценькай хаціне.
Прыціхаюць на пагорках клёны,
„Дзякуй, лета! Да сустрэчы, лета!"
І разгледзіш ў колеры чырвоным
Нешта ад паганства і Сусвету.
Потым ноч свае запаліць свечкі,
Прытушыўшы аб нязбыўным смагу...
Потым пройдзе. І туманы над рэчкай
Натаміўшы крылы, у лісце лягуць
Цемру выстрыгуць вушамі коні,
Ну, а вы - яшчэ нібыта ў сне...
.............................................
Патрымаеш птушку на далоні,
Паляціць?!
ЦІ не...

**Шаноўныя сябры!**




*Рэдакцыя бюлетэню "Жаўранак" яб'яўляе некалькі экалагічных конкурсаў. Да ўдзелу ў конкурсах запрашаем усіх жадаючых, а ў першую чаргу вельмі просім прыняць актыўны удзел школьнікаў і студэнтаў.*

# Конкурс на лепшае сачыненне сярод моладзі на экалагічную тэму

*Жадаючым паўдзельнічаць у гэтым конкурсе можна пісаць на наступныя тэмы:*

**"Цяперашняе экалагічнае становішча ў Беларусі"** (праблемы, якія існуюць зараз; магчымае выратаванне).

**"Забрулджванне паветра"** (чаму і па якой прычыне моцна забруджваецца паветра).

**"Прыгожае вакол нас"** (фантастычнае будучае планеты; як і што зрабіць, каб наш край захаваць найпрыгажэйшым куточкам свету).

Абяцаем, што ніводны ліст не застанецца без увагі. Разам з лістамі вам неабхона і патрэбна прысылаць фотакарткі ў якіх адлюстроўваецца тая ці іншая праблема.

*Пераможцы не застануцца без падарункаў. Лісты прымаюцца да 1-га сакавіка.*

# Конкурс - тэст

1. ці праўда, што А. Пушкін быў эколагам?
a) пісаў нататкі;
b) быў кепскім эколагам;
c) сэрцам яе (экалогію) адчуваў.
2. у якой краіне, акрамя Японіі, ёсць горад Хірасіма?
a) у Нігерыі;
b) у Індыі;
c) у Беларусі.
3. ці хопіць нам на зямлі кіслароду?
a) не варта непакоіцца;
b) варта ўжо і занепакоіцца;
4. калі дзень нараджэння ў нашай планеты Зямля?
a) 22 снежня;
b) 22 чэрвеня;
c) 22 красавіка.

*Знайдзі правільны адказ, дашлі ліст з чыстай капэртай у рэдакцыю бюлетэня "Жаўранак" па адрасе: вул. Баграціёна д.31, 231800 г. Слонім.*

